*Міхаіл Пастухоў,*
*правамоцны суддзя Канстытуцыйнага суда,*
*доктар юрыдычных навук, прафесар*

# ЮРЫДЫЧНЫЯ АСПЕКТЫ ВЫКАРЫСТАННЯ ЗАКОНА АБ МОВАХ

**Даклад на навукова-практычнай канферэнцыі "Закон аб мовах -- вынікі і перспектывы" 26 лютага 2000 года**

Закон аб мовах, што быў прыняты 26 студзеня 1990 года, з'яўляецца, бадай, адным з першых законаў Рэспублікі Беларусь, які замацаваў належнае права беларускага народа карыстацца сваёй роднай мовай без усялякіх абмежаванняў.

Больш за ўсё ўражвае ўступ да гэтага закона, які напісаны высокім літаратурным стылем і прасякнуты вялікаю пашанай да беларускай мовы. І хоць усе прысутныя ў гэтай зале добра ведаюць наш Закон аб мовах, я ўсё ж дазваляю сабе працытаваць некалькі выразаў з гэтага Закона: "Мова – душа народа, галоўная і найбольш важная частка яго культуры"; "Жыве мова – жыве народ"; "Абавязак кожнага – берагчы родную мову, спрыяць яе развіццю і росквіту".

Заслуга Закона аб мовах (1990 г.) у тым, што тут упершыню беларускай мове надаваўся статус дзяржаўнай мовы. Разам з тым грамадзянам іншых нацыянальнасцяў не забаранялася карыстацца рускай або іншай мовай.

Гэтым Законам былі замацаваныя міжнародныя гарантыі абароны беларускай мовы, а таксама быў пакладзены пачатак прынцыпова іншых адносінаў міжнароднай супольнасці да беларускай нацыі. Рэспубліка Беларусь імкліва набывала статус самастойнай дзяржавы, што асацыявалася з назвай яе карэннага насельніцтва.

Закон аб мовах стаўся адной з прадмоваў далейшых пераўтварэнняў. 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў гістарычную Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. У Дэкларацыі наша рэспубліка абвяшчалася суверэннаю дзяржавай, што ўтварылася на падставе здзяйснення беларускай нацыяй неад'емнага права на самавызначэнне. Носьбітам суверэнітэту і адзінаю крыніцай дзяржаўнай улады вызначаўся беларускі народ, які складаецца з грамадзянаў усіх нацыянальнасцяў.

З вялікаю павагай паставіліся распрацоўшчыкі Дэкларацыі да беларускай мовы і культуры. У артыкуле 9 Дэкларацыі абвяшчалася, што дзяржава забяспечвае функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця з захаваннем нацыянальных традыцыяў і гістарычнай сімволікі.

Нормы Закона аб мовах і Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце атрымалі працяг у першай Канстытуцыі незалежнай Рэспублікі Беларусь. Артыкул 17 Галоўнага закона замацаваў у якасці адзінай дзяржаўнай мовы беларускую мову і разам з тым гарантаваў права вольнага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін.

Менавіта такое вырашэнне пытання аб дзяржаўнай мове з'яўляецца найбольш спрыяльным у сэнсе абароны і адраджэння беларускай мовы, а разам з тым і забяспечання нацыянальна-культурных правоў грамадзянаў Беларусі. Гэта цалкам пацвердзіла і практыка прымянення Закона аб мовах аж да самага рэферэндуму ў траўні 1995 года, у якім прысутнічала і пытанне аб наданні рускай мове аднолькавага статусу з беларускай.




*З трыбуны канферэнцыі выступае Міхаіл Пастухоў. Фота Дзедзечкіна*

У сродках масавай інфармацыі я выказаў свой погляд з нагоды канстытуцыйнасці гэтага рэферэндуму (гл.:"Народная воля", 20.08.98г.), і зараз я ўпэўнены ў тым, што ўлады незаконна прынізілі статус беларускай мовы на карысць рускай мовы.

Мяркуйце самі. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 12-га склікання прымаў рашэнне аб правядзенні рэферэндуму пад прымусам, таму што ў зале пасяджэнняў парламенту прысутнічалі ўзброеныя людзі ў камуфляжнай вопратцы. Яны жорстка збілі дэпутатаў, якія пратэставалі і, ігнаруючы статус іх недатыкальнасці, звезлі на крытых машынах за межы горада. На ўрадавым узроўні была арганізаваная паўсюдная прапагандысцкая кампанія ў падтрымку станоўчага вырашэння пытанняў, што выносіліся на рэферэндум. Тым часам нацыянальна-дэмакратычная арганізацыя (у прыватнасці, Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны), вядомыя грамадскія дзеячы, прыхільнікі беларускай нацыянальнай ідэі не атрымалі права выказаць свае погляды праз дзяржаўныя тэлебачанне і радыё. Але галоўнае тое, што ў адпаведнасці з тагачасным заканадаўствам пытанне пра мову не павінна было ўвогуле выносіцца на народнае галасаванне.

Супрацьзаконнымі трэба лічыць і наступныя змены ў Законе аб мовах, што былі зробленыя шляхам прыняцця паправак ад 13 ліпеня 1998 года (гл.: Ведамасці Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. 1998, № 28, арт.461). Па сутнасці яны сталі падставай працэсу русіфікацыі, што распачаўся ў Беларусі пасля абрання на пасаду прэзідэнта А.Лукашэнкі. Аб незаконнасці гэтых зменаў гаворыць яшчэ і тое, што прынятыя яны былі неправамоцным органам заканадаўчай улады, які быў сфармаваны пасля прымусовага роспуску Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання.

З усяго вышэйсказанага вынікае, што да сённяшняга дня ў Рэспубліцы Беларусь сапраўдным прававым актам у моўнай сферы з'яўляецца Закон аб мовах ад 26 студзеня 1990 г. З пункту погляду ўсіх прававых канонаў ён павінен дзейнічаць і быць абавязковым для ўсіх дзяржаўных органаў, службовых асобаў і грамадзянаў. Такая высnова асабіста ў мяне не выклікае аніякага сумнення, і, калі спатрэбіцца доказы, я магу прывесці шэраг дадатковых прававых аргументаў і канкрэтныя лічбы.

У сувязі з гэтым звяртаю Вашу ўвагу на некаторыя палажэнні Закона аб мовах, якія павінны выкарыстоўвацца ў жыцці, але якія ігнаруе сённяшняя ўлада, а разам з тым і шэраг грамадзянаў, што не адчуваюць сваёй прыналежнасці да беларускай нацыі.

Артыкул 2 Закона абвяшчае, што Рэспубліка Беларусь забяспечвае ўсебаковае развіццё і функцыянаванне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Агульнабеларускія і мясцовыя дзяржаўныя органы, прадпрыемствы, установы і грамадскія арганізацыі павінны ствараць для грамадзянаў Рэспублікі Беларусь неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моваў і для дасканалага валодання імі.

А што мы маем на самой справе? Ці ставарае ўлада ўмовы, каб грамадзяне мелі магчымасць карыстацца беларускай мовай на працы, у час навучання альбо грамадскіх спрэчак? Адказ відавочны.

Артыкул 3 Закона патрабуе ад органаў дзяржаўнай улады і дзяржаўных службоўцаў афармляць свае рашэнні і весці справаводства па-беларуску. На звароты грамадзянаў павінны адказваць на беларускай мове, а пераклад на рускую мову рабіць толькі па запатрабаванні.

Паводле артыкула 4 Закона кіраўнікі дзяржаўных устаноў, прадпрыемстваў і грамадскіх аб'яднанняў павінны валодаць беларускай мовай у межах, неабходных для выканання службовых абавязкаў.

Але ж гэта зусім не адпавядае рэчаіснасці. Кіраўнікі ўсіх узроўняў не карыстаюцца дзяржаўнай мовай нават на афіцыйных мерапрыемствах. Ад гэтага абавязку іх вызваліў новы Закон аб мовах, што абвясціў дзяржаўнымі мовамі ў Рэспубліцы Беларусь беларускую і рускую мовы.

Атрымліваецца, што ў нас быццам бы дзве роўныя мовы, размаўляй на якой жадаеш, на свой уласны выбар. Але ж нацыянальныя кадры размаўляюць на мове іншай нацыі і іншай краіны. Ці магчыма такое ўявіць, напрыклад, у Польшчы, Нямеччыне ці Францыі? Мяркую, адказ ведае кожны.

Да 2000 года Закон аб мовах мусіў цалкам увайсці ў практычнае жыццё беларускага грамадства, адрадзіць нацыянальную культуру, стаць падмуркам беларускай дзяржаўнасці. На жаль, праграма паступовага выкарыстання Закона была вынішчана, і шмат у чым з-за шчырага нежадання ўлады карыстацца роднай мовай.

Тое, што адбываецца зараз у Беларусі з беларускай мовай, як я мяркую, трэба лічыць знявагаю нацыянальнай годнасці беларускага народа, нацыянальнай ганьбай і здрадай нацыянальным інтарэсам.

Мова тытульнай нацыі ўсюды і заўсёды з'яўляецца адзінай дзяржаўнай мовай. Тым больш, што людзі карэннай нацыі ў Рэспубліцы Беларусь, паводле апошняга перапісу, складаюць 81%.

Упэўнены, што надыдзе час, калі святыні беларускай дзяржавы – Мова, Герб, Сцяг – зноў зоймуць свае пачэснае месца, стануць увасабленнем беларускай дзяржаўнасці і культуры.

Я веру, што так яно і будзе, і спадзяюся на хуткія змены ў нашым дзяржаўным і грамадскім жыцці.

Жыве беларуская мова – душа беларускага народа!

Жыве незалежная Беларусь!

# "Дзіўны наш народ"

Новы год сустракала ў Беларусі. Вядома, глядзелі расейскія каналы тэлебачання. Прыгожы, у час зыход прэзідэнта Расеі Барыса Ельцына. Прапанавала потым уключыць беларускае тэлебачанне, а раптам і ваш гэта зробіць, за цудоўным прыкладам "старэйшага брата", тым больш, што тэрмін паўнамоцтвам даўно, аж паўгода, сышоў. Ды не. Беларускае тэлебачанне ніхто не глядзіць, зразумела, яно толькі раздражняе, па-беларуску дыктары гавораць з памылкамі, я неяк спрабавала фіксаваць, адчуваецца іх напружанасць. Прэсу таксама не чытаюць, не да гэтага, эканоміка разбурана. Але падтрымоўваюць прэзідэнта. Хаця з яго прыходам на свінаферме запарваюць муку, выкарыстоўваючы дровы, бо няма саляркі, сякуць у ручную аж за 3 млн зайчыкаў у месяц. Што можна купіць за іх?

У раённы цэнтр за сорак кіламетраў ходзяць пяшком, вяртаюцца пад раніцу наступнага дня. Аўтобусы ўжо некалькі гадоў курсуюць толькі па некаторых маршрутах і то з вялікімі перабоямі, а ў апошнія гады зусім знялі, няма паліва. Здзіўляе цярпенне народа, колькі ж можна над ім здзекавацца. Хадзілі продкі пяшком у Вільню да 1939 г., рана выйдуць, вечарам вяртаюцца ды яшчэ і хлеб і соль неслі. Цяпер народ слабы, і Чарнобыль, і няўпэўненасць у заўтрашнім дні. Увосень закрылі беларускую школу, дзеці ездзяць за 10 км у літоўскую, жывуць у інтэрнаце, нават першакласнікі. І што гэта дало, - дзеці хварэюць, галодныя, растуць рабаўнікі, ужо ёсць выпадкі. Вось, што дае эканомія на дзецях. Вынікі выбараў вядомыя.

Вясной адбываліся выбары ў мясцовыя саветы, якраз супала з каталіцкім Вялікаднем. Усе рана паехалі ў касцёл, я адна засталася ў хаце. У 6 гадзін раніцы, яшчэ спала, прыехалі з скрыняй галасаваць. Мне, грамадзянцы другой краіны прапанавалі паставіць подпісы за ўсіх, хто прапісаны. У спісах былі невядомыя прозвішчы лясніка, заатэхніка. Выканала іх просьбу, бо нічога не мянялася. Усё было загадзя вядома. Дарэчы, я так галасавала і за будучага прэзідэнта ў 1994 годзе, але не проста ставіла подпісы, а і выкрэслівала непатрэбных кандыдатаў, у тым ліку і цяперашняга, і тлумачыла, да чаго гэта прывядзе. Што і здарылася.

Так, вядома, мне не абыякавы лёс Бацькаўшчыны. Неяк з Вільні ехала мая знаёмая, уся сіняя, нешта прывязвала, каб перавезці ў Літву, працуе яна ў Беларусі ў дзіцячым садку, атрымоўвае 6 млн., двое дзяцей, скардзілася на цяжкае жыццё. Распавядала, што з школы збіраліся паехаць вучні на экскурсію ў Менск, але не атрымалася, бо бацькі не змаглі заплаціць. Да такога стану прывяла абыякавасць людзей, жывуць адным днём, няма ўпэўненасці ў заўтрашнім дні, а самае страшнае -- няма будучыні ў падрастаючага пакалення.

*Леакадзія Мілаш,*
*г.Вільня.*

# Баранавіцкая "Святліца"




**Аляксей Белы**

Як раней усё ў нас тут было спакваля,
Так і сёння наш розум не палкі…
Назбіраць па-на ўзлеску сухога галля,
Ажывіць лёгкім рухам запалкі.

Не каб цемры пазбыцца ці ежу варыць,
Не каб стала лягчэйшай дарога,
А каб проста сядзець і з агнём гаварыць,
Быццам дзеці паганскага бога.

****

На золку ахопяць цябе бесклапотныя сны,
І знічка на комін прысядзе часцінкай
Сусвету…
Чаромха і бэз зацвітаюць з прыходам
вясны,
Язвін і шыпшына – калі пачынаецца лета.

І сонейка ўстане, і гляне з-за сіняй гары,
І зноў па падлозе раскіне празрыстыя
промні.
І вернешся ў марах да светлай юначай
пары,
І будзе што ўспомніць!

****

Я з марамі – быццам з бядой,
Дзён многа, а доля адна…
Азёры з жывою вадой
Прамерзлі да дна.

Каню дарагому – таўро,
Шчасліваму – торбу і ў людзі.
Жар-птушка не згубіць пяро –
Патрэбы не будзе.

… Вірамі зламала вясло,
Ні хаты , ні роду.
А проста каханне прайшло,
Відаць, назаўсёды.

****

Што ж тут робіцца, на Беларусі,
Людзі мы, ці ўжо болей не людзі?..
Лепш падацца ў "дзікія гусі",*
Чым сядзець у самоце і брудзе.

Досыць ціскаць азадкамі лаву,
Ды збіраць па аселіцах шчаўе.
Лепш у джунглях знайсці сваю славу,
Ці – бясслаўе.

**"дзікія гусі" – замежны французскі легіён.*

****

Зноў салодкай стала цыгарэта,
Прасціна – скамечанай паперай.
Надышла пара вяртацца з лета.
Шчыльна ў лета зачыняю дзверы.

Звянуць і рамонкі, і валожкі,
Не ўратуе болей іх адліга.
І замест жанчыны ў маім ложку
Зноў ляжыць разгорнутая кніга.

****

Позняе каханне – нібыта першае,
І ніхто за гэта не асудзіць.
У другім жыцці былі б мы лепшымі,
Ды, на жаль, яго ў мяне не будзе.
Зноў пушынцы не хапае лёту,
Ціха ў лесе. Хутка дзень настане.
У другім жыцці сваёй пяшчоты
Мы б не шкадавалі для кахання.

**Алесь Корнеў**

*Прысвячаецца маладой паэтцы Лесі Беларусцы (Ларысе Пятроўне Марозавай), загінуўшай у Гулагскім лагеры "Эльген" ("Мёртвы") 13.01.48 года. (Гл. часопіс "Алеся" № 1-98г).*

"Ага! Дык складаеш вершы!
Яшчэ й на беларускай мове!
То значыць вораг ты найпершы…
Відаць з нацдэмаўцамі ў змове.

Таму, мо люба ці не люба,
Бяры харчы, бяры ватоўку –
І давядзецца ехаць пасля шлюбу
Табе ў "вясельную вандроўку."

І звезлі з родненькага кута
Туды, дзе змерзла нават сопка…
Глядзяць спалохана акуты,
Ад страху моляцца таропка.

Рыпіць самота ў снезе хрустка,
Туга з'ядналася з пургою…
Не змоўкла Леся Беларуска,
Гаворыць вершамі з тайгою.

Але тайга журбы не здыме,
Бо і сама замерла ў скрусе…
Душою Леся на радзіме
І думкі там, у Беларусі.

… Няма ўжо Лесі і двухтомнік
яе таксама знік у Лету.
Давайце, ўсё ж, паставім помнік
Мы невядомаму паэту,
Як невядомаму салдату…
Без прозвішча, без пэўнай даты…

**НАША МАЦІ**

Віхурацъ думкі. Позірк востры.
І боль душу мне раздзірае…
Перад сабою бачу постаць –
Жанчына кволая, старая.

Сагнутая пад ціскам ветру,
Як бы вага яго без меры,
У бясколерным пражытым свэтры
І твар такі ж гранітна-шэры.

А вочы! Выцвілыя вочы!
І рукі ў трэшчынках ад працы…
Стаіць, бы помнік той сірочы…
Правобраз Беларусі –маці.

О, дзе ж вы, выраслыя дзеці?
Як з вамі сувязі наладзіць?
Ну як на вас ёй пагляДзець?
Хаця б разок ізноў пагладзіць…

Хапіла б тут піцця і ежы,
Дык вам давай чагосці болей.
То ў горадзе, а то ў замежжы
Шукаеце вы лепшай долі.

Адзін імкнецца ўзяць уладу,
Другі пайшоў шукаць багацце…
А ў маці – ніякога ладу.
Застаўся сум адзін у маці.

… Пучок пятрушкі. Пук маркоўны
Не кпіце, людзечкі, не кпіце.
Ну хто з вас будзе памяркоўны?
Купіце што-нішто. Купіце…

**Іван Лагвіновіч**

**ХУТАРАНКА**

За чыстым полем, за цёмным лесам,
За невысокаю гарой
На хутарочку жыве Алеся
З катом, сабакам і казой.

Жанчына дровы ў радзюжцы носіць,
Траву на сена сярпочкам жне.
Ляснік тамтэйшы ёй хлеб прывозіць –
Хоць раз на тыдні, а зазірне.

Слупоў і дроту пашкадавалі –
Ёй электрычнасць не правялі.
Б'е ў вокны пушча зялёнай хваляй,
Звілі ў застрэшку гняздо чмялі.

Хацелі ў горад забраць Алесю.
Яна сказала рашуча: "Не!
Не пражыву я трох дзён без лесу.
І адчапіцеся ад мяне."

**Дзмітры Тукай**

**ВЯСНОВЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ.**

Зямля аж дыхае ў руцэ,
Бы мякіш хлеба.
Вясна блакіт бярэ ў рацэ,
Фарбуе неба.

Па беласнежных прасцінах
Прайшоўся пэндзаль –
Вясна выводзіць на палях
Свой першы вензель.

А потым пройдзе па раллі
Квачом зялёным,
Наўмысна пырсне па галлі
Бярозам, клёнам…

І красавік, нібы знарок,
Падхопіць ветрам,
Мы будзем піць з бярэзін сок
І піць паветра.

Нам зноў да ранку не заснуць
У ночы,
Як толькі ў сэрцы зазірнуць
Пралесак вочы.

**Браніслава Лапкоўская**

**Мова**

Наша мова не загіне:
Карані – у зямлі.
Мову мы не пакінем,
Мову продкі далі.
Рунь узнімецца ў колас,
Сцюжам рунь не здалець.
Мовы выспелы голас
Будзе песняй звінець!

**Іван Трысцень**

**НАШ СЦЯГ**

Наш сцяг самы прыгожы ва ўсім свеце.
Не верыце?
Прыглядзіцеся добра, задумайцеся.
Хвіліну, другую, трэцюю.
Чым больш вы глядзіце,
тым прыгажэй ён становіцца.
Але ёсць адна ўмова –
сцяг павінен быць чысты.
Кожная пылінка прыкметна на ім.
Беражыце наш сцяг, бо
Толькі калі ён чысты і
ў чыстых руках, вы ўбачыце
сапраўдную прыгажосць яго.
А наш сцяг самы прыгожы
ва ўсім свеце.

Па белым, па снезе – палоска крыві,
А можа пялёсткі хто ружы раскідаў?
Прыгожы як кветка і вечна жывы
Сцяг Крыўскі, Вітоўтаў, Давыдаў.
Ён – сведка далёкіх і значных падзей,
У водбліскаў вогненнай, воінскай славы,
Надзея для многіх мільёнаў людзей,
Апора і сімвал дзяржавы.

Булатам звінела, курэла зямля,
Чужынцы ішлі, і баі не сціхалі,
Мелодыю бітвы ў руках Каваля,
Ліцьвінам мячы заспявалі.

Са сцягам сваім неўміручыя мы, -
Казалі яны перад боем.
Загіне хто з нас – Шлях да Раю прамы,
А вернецца – будзе героем.

Імклівай Пагоні не сцішыцца бег,
Наш сцяг у стагоддзях лунае.
Прыродай штогод абнаўляецца сцяг,
А колеру кроў не мяняе.

**Венанцы Бутрым**

**ВОСЕНЬ**
**(урывак)**

Кастрычніцкая яснасць!… Як праз шкло
Прамытае не раз, ды таўшчыні належнай…
Ільецца створанае вечнасцю святло,
Сатканае з журбы і радасці бязмежнай.
І песні горнуцца, бы ветразі плывуць,
У словах, знойдзеных і сказаных другімі.
І спее ўласнае. Збірай, і не забудзь,
Што так пяецца толькі між сваімі…

І пракрадзецца досвіткам туман нямы,
Абдыме былку кожную. І стан яліны дужай…
Счакаўшы раніцу, пад сонца пойдзем мы,
Зямляк і суайчыннік – шчыры дружа.
Адчуць, як у гаі з бяроз, ляшчын, асін
Страсаецца цішком пад кірзавыя боты
Начышчаная медзь, прынадлівы кармін,
Нейтральнасць бляскасці пры кроплях пазалоты.

Спакой і цішыня – не маюць меж і мер.
Ахейцы сінявы такой не сустракалі!
Халаднаваты клімат… быў бы свой Гамер,
Калі яны Руна яшчэ і не шукалі…
А нам – элегіі, санеты. Конь сівы,
Барвовым захадам ружова фарбаваны…
І гэты вось кастрычнік залаты,
Да дробязей знаёмы, зноў жа – нечаканы…

Быў млын калісь… Праз рэшткі паляў лье
У нізкіх берагах рака струмень халодны.
Спрамляюць рэчышча. Чакае тут яе
Бетонная труба. Над ёю – мост выгодны.
Падыдзем? Пастаім, каб лепей ацаніць
Прыкметы навізны, наканаванай часам.
Цякла - як сонная, тут – пеніцца, бурліць!
І зноў спакойная – пакінулі сам-насам!

Зусім як чалавек! Ды праз матора гук
Ён нашых разважанняў не пачуе:
З навюткім кошыкам лазовым паляшук
З-пад Пінска на Навагрудак шыбуе!
Да тых грыбкоў, што ў кошыку ляжаць,
Зяць прынясе што-кольвечы з сельмага…
Без кроплі ж той – ні быць, ні гасцяваць:
Адолее, замучыць смага…

Ах, колькі ж іх было: тых кропель, баразён,
Крывавых мазалёў, крыжа здранцвення, поту,
Дажджоў заложных, каб буяў драсён,
І тых чаканых, зсунутых на потым!
Шчасліва, дзядзька! Ўнукаў падтрымай,
Хай доля мачыхай ніколі ім не будзе!
А розных там хвароб, нястач – о непачаты край! –
Адолеем, ўсю плойму збудзем!

**Алесь Бакач**

**ПАННЫ**

У густым,
Нібы дым,
Хмарным небе начным
Зіхатнулі шаўкамі зорнымі
Побач з Месяцам маладым
Панны ясныя між сузор'ямі.

Іх, як сцяг па вятрах –
Валасоў Млечны Шлях.
Ды ад зор не чакай сардэчнасці –
Адбіваецца ў іх вачах
Таямніца халоднай вечнасці.

**ЖНІВЕНЬ**

Маладзік на золку знік.
Сонца лік, бы залатнік,
Выплыў над лясамі.
Грыбнікі, як ганчакі,
Напраскі праз хмызнякі
Сыпнулі з кашамі.

Зазвінеў над полем спеў.
Зашасцеў вятроў павеў
Хвалямі па ніве.
Па садах у туманах.
Дзе, як птах, мядовы пах,
Ласуецца Жнівень.

# Вярнуліся яшчэ не ўсе

Беларуская гістарычная навуковая, літаратурная спадчына, нягледзячы на падзенне камуністычнай ідэалагічнай заслоны, з цяжкасцю вяртаецца да сваіх землякоў. Вялікай перашкодай зараз сталі на яе шляху расійскі імперскі шавінізм і прамаскоўская палітыка яе прыхвастняў. І ўсё ж нягледзячы на супраціў гэтых антыбеларускіх сіл, праца ў гэтым кірунку не спыняецца.

У Беластоку, выдавецтва "Беларускі саюз Рэчы Паспалітай" выдаў кнігу "Вяртанне да сваіх". Прадмову, укладанне і каментар да яе зрабіў Слонімскі літаратар Сяргей Чыгрын. На старонках кнігі змешчаны творы заходнебеларускіх літаратурных дзеячоў, якіх беспадстаўна загубіў бальшавіцкі рэжым, а потым на працягу паўстагоддзя замоўчвалася іх творчая спадчына і імя. Гэта – Станіслаў Грынкевіч, Франук Грышкевіч і Уладыслаў Казлоўшчык. Усе яны родам з Беласточчыны.

У прадмове Сяргей Чыгрын звяртае ўвагу чытача, што ў свой час у Заходняй Беларусі было два Станіславы Грынкевічы. Малодшы Станіслаў Грынкевіч таксама быў шчырым беларусам, памёр на эміграцыі ў Амерыцы. А вось яго дзядзька і цёзка займаўся літаратурай і медыцынай.

Толькі чытач недастаткова знаёмы з жыццёвымі пуцявінамі гэтых творцаў, то не лішне будзе прыгадаць іх.

Нарадзіўся Станіслаў Грынкевіч 2 лютага 1902 года ў мястэчку Новы Двор былога Сакольскага павета Гродзенскай губерні. Напачатку вучыўся ў вясковага настаўніка. У 1912 годзе ён быў залічаны ў Гарадзенскую дзяржаўную мужчынскую гімназію. З пачаткам першай сусветнай вайны Станіслаў Грынкевіч, разам са стрыечным дзядзькам выехаў у Смаленскую губерню. Там скончыў сем класаў, вяртаецца ў родную вёску ды пачынае падрыхтоўку для паступлення ва універсітэт. Здае паспяхова экзамены і паступае ў Віленскі медычны універсітэт. Сямейныя абставіны склаліся так, што навучанне канчае ў Познані. Да 1935 года працуе ў медычнай клініцы, пасля – у псіхіятрычнай бальніцы ў Харошчы каля Беластока. Акрамя непасрэднай працы займаецца і перакладчыцкай дзейнасцю, перакладае на беларускую мову медыцынскія працы з іншых моў ды рэлігійныя тэмы. Жонка Ядвіга Грынкевіч стаматолаг, полька па-нацыянальнасці, апрацоўвала лекарскія парады па-беларуску, і нават сама пісала артыкулы. У Вільні выходзяць іх сумесныя кнігі "Рады хворым і здаровым" (1935г.), "Алкагалізм" (1938г.), "Умовы і загады, неабходныя для здароўя" (1939г.) ды іншыя.

У 1927 годзе Станіслаў Грынкевіч разам з сям'ёю пасяляецца ў Вільні, уладкоўваецца на працу ў першую Віленскую паліклініку. Тут ён піша шматлікія артыкулы ў часопісы "Студэнцкая думка", "Крыніца", "Заранка", "Калосьсе" і іншыя. Шмат ездзіць па вёсках, чытае папулярныя лекцыі па гігіене, медыцыне і гісторыі. У 1936 годзе Станіслаў Грынкевіч выдае брашуру "Асьвета". Яе канфіскоўвае польская паліцыя, аўтар два тыдні праводзіць за кратамі, затым на яго накладваецца штраф. Ён шмат піша. Вось толькі некалькі назваў: "Аб тэатры" (1927г.), "Царква. Помста. Вязніца". (1928г.), "Капля вады" (1927г.), "Народ" (1927г.), "Як лячыць хваробы хатнім спосабам" (1927г.), "Зацемкі аб характары беларусаў" (1935г.), "Аб праве да бацькаўшчыны" (1936г.).

Пісаў Грынкевіч і драматычныя творы. У 1927 годзе ў Вільні асобным выданнем выйшла з друку яго п'еса ў трох абразах "Жанімства па радыё" – бытавы драматычны твор. дзе распавядаецца пра жыццё і справы беларускіх вяскоўцаў.

Як толькі савецкія войскі вызвалілі ад немцаў Віленскі край, яго арыштоўваюць, канфіскоўваюць дом і маёмасць. Затым яго адпраўляюць на допыты ў Менск.

25 ліпеня 1945 года Станіслаў Грынкевіч быў расстраляны пад Магілёвам.

Яшчэ больш скупыя звесткі пра Франука Грышкевіча. Нарадзіўся ён дзесьці ў 1906 годзе ў мястэчку Сухаволі Сакольскага павета на Беласточчыне. Рана застаўся без бацькоў. Закончыў Віленскую беларускую гімназію. У 1926 годзе нелегальна пераходзіць польска-чэшскую мяжу ды паступае на літаратурны факультэт Карлавага універсітэта ў Празе. Там жа супрацоўнічае з часопісам "Slovansky prehled", дзе змяшчае рэцэнзіі на менскія выданні. Пасля вучобы вяртаецца ў Вільню, служыць у Войску Польскім. У 1939 годзе, пасля прыходу Чырвонай Арміі супрацоўнічае з часовымі ўладамі, узначальвае школы Віленскай школьнай акругі. З пачаткам Вялікай Айчыннай застаўся ў Вільні. Нямецкія акупацыйныя ўлады даюць дазвол на функцыянаванне Віленскай беларускай гімназіі. Ф. Грышкевіч прызначаецца яе дырэктарам, а выкладчыкамі гімназіі засталіся ўсе тыя, хто працаваў тут раней.

Франук Грышкевіч быў не толькі добрым педагогам, але і паэтам, перакладчыкам, публіцыстам. Першыя вершы былі надру-




каваны ў 1924 годзе ў часопісе "Студэнцкая думка" і газеце "Крыніца". Выступаў з вершамі ў "Сялянскай ніве", "Беларускай крыніцы", "Родных гонях" і іншых выданнях. У 1927 годзе ў Вільні выходзіць першы паэтычны зборнік "Вяснавыя мэлёдыі".

Былі ў Грышкевіча і паэтычныя творы. У канцы 1944 года ён быў арыштаваны органамі НКУС і змешчаны ў Менскую турму. Допыты праводзіў сам шэф беларускага НКУС Лаўрэнці Цанава, пад час якіх паэта жостка білі і здзекваліся. Ідучы на чарговы допыт, выскачыў праз турэмнае вакно на вуліцу і забіўся. Вершы яго гавораць самыя за сябе.

***Дай жа нам дай,***
***Сілу ў змаганні,***
***Дай жа нам дай,***
***Моц у трыванні...***

***Прымі наш зоў,***
***Нашы малітвы,***
***Як жаўнераў***
***З крывавай бітвы***
*("Малітва")*

Уладыслаў Казлоўшчык (сапраўднае прозвішча Казлоўскі) нарадзіўся таксама на Беласточчыне. Дзяцінства прайшло ў вёсцы Залессе. Першапачатковую і сярэднюю адукацыю набыў у Саколцы і ў Горадні. У 1916 годзе паступае ў Віленскую каталіцкую семінарыю. Як у Вільні распачало арганізоўвацца беларускае войска Уладыслаў пакідае семінарыю з мэтаю паступіць туды на службу. Адначасова ён запісваецца на кароткатэрміновыя беларускія настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай радзе Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Пасля заканчэння накіроўваецца ў Сакольскі павет, дзе прымае ўдзел у арганізацыі беларускіх школ. Спроба была неўдалая і неўзабаве ён вяртаецца ў Вільню. Як толькі ў Менску пачынаецца ўтварацца Вайсковая камісія, пераязджае туды. Напачатку 1920 года працуе інструктарам Беларускага нацыянальнага камітэта па пытаннях арганізацыі нацыянальнага і кааператыўнага жыцця ў Інгуменскім павеце. У маі Беларуская вайсковая камісія пасылае Казлоўшчыка ў Варшаўскую школу падхарунжых. Пасля заканчэння школы прызначаецца інструктарам у Першы батальён беларускіх стралкоў, які ў той час быў у Лодзі. Праз год беларускія аддзелы ліквідуюцца, і ён пераводзіцца ў польскае войска. як кадравы афіцэр. У 1930 годзе звальняецца са службы і пераязджае ў Вільню. Тут ён аддае сябе творчай працы і палітыцы. Арганізоўвае гімнастычнае таварыства "Гайсак", з'яўляецца выдаўцом і рэдактарам часопіса "Новы шлях" і адначасова выступае адным з арганізатараў Беларускай нацыянал – сацыялістычнай партыі.

Першыя творы Уладыслава Казлоўшчыка з'явіліся ў перыядычным друку ў 20-я гады. Напісаў шмат артыкулаў на тэмы фізічнага выхавання. Адначасова піша і літаратурныя творы. З друку выходзяць яго кнігі "Беларускія народныя песні з Сакольскага павету" (1930 г.), "Плач Беларускай Старонкі па дзетках сваіх рэнегатах" (1930г.), вершаваны раман "Путы кахання" (1932 г.), зборнік паэзіі "Шляхам змагання" (1935г.), вершаванае апавяданне "Казюк на кірмашы" (1940г.). Яго верш "Песьня беларускай моладзі" быў тады гімнам беларускіх юнакоў і дзяўчат, а музыку напісаў сам аўтар у гады вайны. Уладыслаў Казлоўскі ў акупаваным немцамі Мінску рэдагуе "Беларускую (Менскую) газету". 13 лістапада 1943 года ў рэдакцыі газеты яго застрэліў бальшавік Іван Шнігер.

Вершы Казлоўшчыка актуальны і сёння:

***З доўгай, крыўднай болі,***
***Вечнае бяды***
***Вырвецца да волі***
***Дух наш малады.***

***Клічам да змагання***
***Край ускалыхне,***
***Усіх да аб'яднання***
***Дзейнасьцю напхне.***
*("Наш дух")*

Як адзначыў у сваёй прадмове Сяргей Чыгрын, патрыятычная паэзія і проза беларускага літаратара з Беласточчыны – гэта заклік да незалежнасці і адраджэння Беларусі. Гэтыя словы з поўнай упэўненасцю можна аднесці і да двух другіх творцаў.

***Язэп Палубятка.***

**Прэўрацкі В.В. (гістфак БДУ).**

# Нальшчанскі князь Даўмонт

Паўночна-заходнюю тэрыторыю сучаснай Беларусі на пачатку XIII ст. засялялі балцкія плямёны. Пад уздзеяннем Полацкага і Галіцка-Валынскага княстваў на паўночна-заходніх землях Беларусі адначасова са славянскай каланізацыяй адбываліся складаныя дзяржаваўтваральныя працэсы. Балты не мелі свайго адзінага цэнтра і іх землі падзяляліся па тэрытарыяльна-племянным адзінкам. Нам вядомы такія назвы, як Нальшчаны, Літва, Дайнова і інш. Але менавіта гэтым землям у хуткай будучыні давялося стаць адзіным ядром новай дзяржавы.

Звернем свой погляд на Нальшчанскую зямлю. Паводле меркавання даследчыкаў, Нальшчаны займалі тэрыторыю з поўначы на поўдзень ад г. Дзвінска (Даўгаўпілса) да г. Маладзечна і з захаду на ўсход ад г. Пабрадзе да г. Глыбокага. Праўда, у гэтым месцы нельга абыйсціся цалкам без спрэчак. Напрыклад, даследчык Л.В.Аляксееў мяркуе, што памежжам Полацкага княства і балцкіх тэрыторый быў Мядзельскі замак.

Далей, што мы ведаем, прыкладна ў сяр. XIII ст. нальшчанскім князем становіцца Даўмонт. Можна высунуць гіпотэзу, што рэзідэнцыяй князя Даўмонта быў замак на возеры Свір. У пацверджанне гэтаму ёсць некалькі ўскосных сведчанняў. Па-першае, князі Свірскія паводле легендарных звестак выводзілі свой род ад князя Даўмонта. Яны мелі герб "Лёс УІ, альбо Свірскі": у чырвоным полі двойчы перакрыжаваная срэбная страла наканечнікам уверх, над шоламам княжацкая карона. Па-другое, у свой час Мацей Стрыйкоўскі занатаваў, што сляды замка на возеры Свір "ёсць і зараз – так як замак, будучы драўляным, яшчэ ў далёкія часы прыйшоў у непрыгоднасць". Князь Даўмонт быў удзельным князем, таму ён не мог не супраціўляцца працэсу цэнтралізацыі балцка-славянскіх зямель паўночна-заходняй Беларусі, што адбываўся на працягу першай паловы XIII ст. Працэс цэнтралізацыі актыўна праводзіў у жыццё вялікі князь Міндоўг. Паслабленне крыжакамі магутнасці Полацкага княства і смерць у 1216 г. князя Уладзіміра, нашэсце татар на Галіцка-Валынскае княства – усё гэта ўдала выкарыстаў Міндоўг. Знішчаючы сепарытызм мясцовых князёў, вялікі князь часова аб'ядноўвае балцкія землі і распачынае экспансію на суседнія полацкія і наваградскія землі. Утвараецца першае балцка-славянскае гаспадарства. Аднак традыцыі мясцовай вольнасці былі вельмі моцнымі ў свядомасці іншых літоўскіх князёў, і ў 1263 г. арганізуецца забойства Міндоўга.

Пра ўдзел князя Даўмонта ў палітычным забойстве вялікага князя захаваліся супярэчлівыя звесткі. Згодна адным крыніцам, Даўмонт удзельнічаў у забойстве Міндоўга і ўцёк пасля гэтага ў Пскоў з-за пераследу сына забітага князя Войшалка. Іншыя ж крыніцы, больш позняга часу, называюць Даўмонта сынам Міндоўга, а яго ўцёкі ў Пскоў тлумачаць уціскам прыхільнікаў Міндоўга і жаданнем Даўмонта прыняць хрысціянства.

Як бы там не было, але ў "Сказанні пра Даўмонта" запісана так: " В лето 6773 (г.зн.1266). Побишася Литва межи сабою некиа ради нужа, блаженый же князь Домант с дружиною своею и с всем родом своим оставие отечьство свое, землю Литовскую, и прибеже в Плесков..."

Што сталася з нальшчанскімі землямі пасля ўцёкаў Даўмонта, указвае наступны факт: ужо ў 1268 г. лівонцы і рытане называлі Нальшчаны правінцыяй Літвы.

Пакрыўджаны князь Даўмонт стаўся зручнай зброяй для пскавічан і наўгародцаў. Яшчэ пры Аляксандры Неўскім гэтыя землі адчувалі ўзрастаючы напор Літвы. Як скардзіўся аўтар "Слова пра згубу Рускай зямлі" (напісаны твор у прамежак часу з 1238 па 1246г.г.): "А литовцы из болот своих на свет не показывались..." (маецца на ўвазе папярэдні перыяд). Актыўна змагаўся з наездамі Літвы Аляксандр Неўскі. У "Аповесці пра жыццё Аляксандра Неўскага" можна прачытаць: "В то же время ужножися языка литовского и начаша пакостити волости Александрове. Он же выездя и избиваше я. Единою ключися ему выехати, и победи 7 ратий единем выездом и множеством князей их изби, а овех рукама изыма, случы же его, ругающеся, вязахуть их к хвостом коней своих. И начаша оттол блюсти имени его".

У князя Даўмонта жонкай была Марыя – дачка наўгародскага князя Дзмітрыя Аляксандравіча, сына Аляксандра Неўскага. Прымаючы праваслаўнае імя Цімафей, нальшчанскі князь становіцца актыўным працягвальнікам палітыкі Аляксандра Неўскага. Ужо праз некалькі дзён знаходжання ў Пскове ён арганізуе паход на літоўскія землі. Пскавічы з радасцю яму дапамагаюць сабраць невялічкую дружыну. "И плени землю Литовскую, и отечьство свое повоева, и княгиню Герденевую полони и дети ея, и все княжения его повоева, и вратися с множеством полона ко граду Плескову".

У далейшым Даўмонт неафіцыйна прымірыўся з вялікімі князямі і сканцэнтраваў сваю ўвагу на барацьбе з крыжакамі. Менавіта такія лаяльныя адносіны пскоўскага князя дапамаглі выстаяць маладому Вялікаму Княству ў цяжкай барацьбе з Ордэнам. Можна дадаць, што сын Даўмонта – Давыд Гарадзенскі ўславіў пазней Бацькаўшчыну ўдалымі паходамі на крыжакаў.

І, напрыканцы, яшчэ адзін факт. У Васкрасенскім рукапісе сказана: "1533. Псковичи же за много лет такова пожара не помнят. Того же лета, месяца Августа в Л. день, преставися Игумен Александр, иже созда честную обитель на реце Свири; в ней велми трудолюбно пожив и отыде к Богу; иже ныне зовется по его благословению Александрова пустыня..." Узнікае пытанне: ці не пасля княжання Даўмонта [illegible] ва ракі Свір у ваколіцах Пскова?

# “Калосьсе” на беларускай ніве

Беларусы, асабліва яго лідары, у апошні час намагаюцца прадстаць прад усім светам, як народ танных каштоўнасцей і аднастайных думак і меркаванняў. Яны безупіху гаротна плачуць па таннай савецкай каўбасе, якую не елі нават чацьвяраногія іх сябры. Дзесяткамі гадоў носяць адзін і той самы гарнітур ды сваё жабрацтва апраўдваюць тым, што ляшчэ не тое было: у вайну лебяду елі. Па-чорнаму зайздросцяць сваім багатым заходнім суседзям ды мкнуцца прадаць сваю Радзіму ў надзеі, што знойдзецца дурань з Усходу, які ім задарма будзе даваць бензіну ды газ. Яны любяць паказкі начальства ды вераць яму больш чым Богу. Ім да спадобы аднастайныя думкі ды меркаванні ва ўсім: ці яно датычыць палітыкі, эканомікі, грамадскага жыцця ды і літаратуры таксама.

Не можа быць аднастайным чалавечае жыццё, не можа быць аднатэмнаю літаратура. Сацыялістычны рэалізм з яго ідэалагічнымі выкрунтасамі за гады камуністычнага панавання тоўстым асфальтавым напластаваннем накрыў поле літаратурнай дзейнасці. Амаль дзесяць гадоў назад сканаў той лад жыцця. Толькі тое асфальта-ідэалагічнае нагрувашчанне, што ён пакінуў пасля сябе, так і застаўся душыць нас ды ўсё нашае жыццё і зараз.

Але як там не было, кволыя парасткі новага паступова ламаюць у нашых галовах шэрую аднастайнасць думак, поглядаў, меркаванняў. Я трымаю ў руках сёмы нумар літаратурна-мастацкага альманаха “Калосьсе”, заснавальнікам якога выступае Таварыства Вольных Літаратараў. Выданне, якое няспешна, крок за крокам заваёўвае сярод прыхільнікаў літаратуры аўтарытэт вольнадумнага высокамастацкага выдання, якіх на Беларусі катастрафічна бракуе. Можна, канешне, успомніць “Крыніцу”, прыгадаць “Нашу Ніву”. Але гэта тыя самыя адзіныя парасткі, што выбіліся з-пад прэса ідэалагічных наслаенняў мінуўшчыны. Гэта яшчэ не квітнеючы сад будучай беларускай літаратуры.

У гэтым нумары альманаха надрукаваны раманец (такое вызначэнне даў сам аўтар) Вітаўта Чаропкі “Поўны керкешоз”. Дзеянне адбываецца ў горадзе. Галоўны герой – Іван Аляксандравіч Хлестачонак. Сярод іншых дзеючых асобаў можна сустрэць знаёмыя чытачам па іншых творах прозвішчы Чычыкаў, Самасуй ды іншых. Гэта іранічны роспавяд пра нашае сённяшняе жыццё. Твор аб тым, як заезжая, невядомая людзям горада асоба ў вобразе Хлестачонка за пустыя абяцанкі накарміць усіх бананамі абіраецца прэзідэнтам. Магчыма аўтар у чымсці пераболышвае, але рэальная сутнасць нашага сённяшняга дня апісана па-мастацку яскрава. У гэтым нумары змешчана таксама фантасмагорыя ў двух дзеяннях Сяргея Кавалёва “Стомлены д'ябал”. Калі Вітаўт Чаропка ў сваім творы выкарыстаў прозвішчы герояў іншых твораў, то Сяргей Кавалёў у п'есе скарыстаў фрагменты з твораў К. Марашэўскага, Я.Купалы, Ф.Аляхновіча.

Аматараў прозы ў гэтым нумары чакае таксама з Алесем Аркушам ды Вінцэсем Мудровым. На старонках альманаха прадстаўлены іх “Прысуд валадара” і “Нячысцік у фраку”.

Паэзія, кажучы збітымі словамі, стан душы. Напісанае паэтычным словам нельга пераказаць прозаю. Паэзію неабходна чытаць.

*Я над болем сваім*
*Уздымуся, як Белая Птушка,*
*Я над горам сваім*
*Узвяду Залатую Царкву,*
*Каб гулі ў ёй Званы,*
*Каб там вецер*
*Гайдаў іх і гушкаў,*
*Каб там мары плылі,*
*Нібы Павы,*
*Адна ў адну.*

*“Я над болем сваім уздымуся ..”* (Гала Гара).

Паэзія ў альманаху прадстаўлена вершамі Ігара Сідарука, Юры Гумянюка, Васіля Дзівашэвіча, Гала Гары ды Леры Сом. Вершы розных паэтычных накірункаў, рознай мастацкай вартасці, але ні ў адным з іх не льюцца гаротныя слёзы творцы пра занядбайную мову, вымяршую вёсачку, старэнькую мамку ды гнілую хатку, якую сынуляпаэт не згорыцца адрамантаваць. Чытачу прадстаўляецца магчымасць выбраць тое, што бліжэй яму па сэрцы.

*Ратуй мяне, мая радзіма.*
*Мяне пакрыўдзіў дзядзя Дзіма.*
*Мне пальцам вока выбіў, гад!*
*Адпомсці, мама, за сыночка,*
*Таксама выбі дзядзю вочка,*
*Заканапаць яго ў бочку,*
*Няхай пабачыць чорну ночку,*
*Пабачыць вечны зарапад.*

(*Ігар Сідарук*)

Альманах “Калосьсе” заўжды вызначаўся важкасцю друкаваных перакладаў. Не разачараваў чытача ён і зараз. Адкрываў гэты нумар урывак з рамана знакамітага мадзярскага пісьменніка-раманіста Мора Ёкая “Сына чалавека з каменным сэрцам”. Змешчаны таксама апавяданні расіяніна Льва Лунца “Чаму мы Серапіёнавыя браты”, паляка Марэка Гласка “Крыж”, албанца Дрытэра Аголы “Забойства”.

Сярод іншых матэрыялаў неабходна звярнуць увагу на літаратурныя развагі Лявона Вашко “За новымі кратамі”. Яны падкупляюць сваёй шчырасцю і праўдзівасцю.

Я ні ў якім разе не збіраўся ўзвышаць гэтае выданне над іншымі. Хачу толькі зазначыць вось што. У нас на Беларусі вельмі мала літаратурных выданняў. А выданне кшталту альманаха “Калосьсе” ў гэтым плане – унікум.

*Язэп Палубятка.*

# Давайце спяваць па-беларуску

## Жытняе поле

**Верш Янкі Насуты** **Муз. Уладзіміра Малочкі**




Выйду на жытняе поле,
Б'юць мне паклон каласы.
Хіба дзе знойдзеш такое раздолле
І невыказнасць красы?

*Прыпеў:*
Беларусь, краса мая,
Ты, як песня салаўя.
Ты мне сэрца праз гады
Паланіла назаўжды.

Вецер калоссе гайдае, -
Хваля за хваляй ідзе.
Жытняе поле мне песню спявае,
Мову са мною вядзе.

*Прыпеў.*

Жытняе поле штодзённа
Множыць багацце стала.
Жытняму полю за хлеб наш надзённы
Слава, падзяка, хвала!

*Прыпеў:*
Беларусь, краса мая,
Ты, як песня салаўя.
Ты мне сэрца праз гады
Паланіла назаўжды.

# Мемарыяльны музей Заіра Азгура

У Менску адкрыўся мемарыяльны музей вядомага беларускага скульптара, народнага мастака СССР, Героя сацыялістычнай Працы Заіра Азгура. Размясціўся ён у былой майстэрні, дзе скульптар працаваў апошнія гады жыцця. У экспазіцыі 420 работ. Але гэта далёка не поўны збор твораў. Значная частка даваеннага перыяду творчасці З. Азгура загінула ў гады вайны. Гэтыя работы захаваліся толькі на фатаграфіях, якія можна ўбачыць у мемарыяльнай зале. Першымі наведвальнікамі музея сталі сябры і вучні З. Азгура, яго родныя, мастакі і скульптары, госці з Расеі.

**На здымках:**
1. Мемарыяльны музей Заіра Азгура ў Менску.
2. Скульптурны партрэт пісьменніка Янкі Брыля.
3. Партрэт пісьменніка Цішкі Гартнага.







*Фота Яўгена Казюлі, БелТА.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 28. 02. 2000 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 691
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 100 руб., 3 мес.- 300 руб.
***Кошт у розніцу:*** 30 руб.